# Ці лёгка быць верным?

Кожны, мабыць, згодзіцца: нялёгка гэта — заставацца верным аднойчы прынятаму рашэнню, дадзенаму камусьці слову, нейкаму важнаму альбо і не вельмі важнаму абяцанню. Не вельмі лёгка заўсёды быць верным Хрысту. І не толькі ў выключных сітуацыях, але і ў нашым штодзённым жыцці.

Таму што быць верным Яму — гэта: не абманваць, не хлусіць, не браць чужога, калі нават вельмі хочацца. Гэта таксама не жадаць нікому нічога кепскага! Гэта: любіць усіх, шанаваць усіх, умець сябраваць, хоць гэта не вельмі проста.

Быць верным Хрысту — гэта заўсёды рабіць выбар на Яго карысць, калі нават іншыя робяць наадварот.

Гэта — не баяцца гаварыць праўды, калі нават за тую праўду можаш атрымаць на арэхі.

Гэта — заўсёды быць на баку Бога.

Гэта — не мець іншых багоў, апроч Яго...

Таму просім Цябе, які найлепш ведаеш нашыя сэрцы, учынкі, наша жыццё:

*Божа, Ойча, благаслаўляй нас,*
*Божа, Сыне, аберагай нас,*
*Божа, Дух Святы,*
*захавай нас цяпер і навекі.*

*Маленькі рыцар Беззаганнай*

*Малюнак Вольгі Важнік, 13 гадоў.*





# Твая размова

Якая яна, твая размова з Богам? Ці штодня яна адбываецца? Ці штодня ты давяраеш Яму значныя і менш значныя свае справы? Ці здольны даверыцца Яму і тады, калі зрабіць гэта цяжка? Напрыклад, калі ў цябе тэмпература і ты ляжыш у ложку замест таго, каб гойсаць з горкі разам з сябрамі. Якая тады твая размова з Панам Богам? Папрокі: чаму менавіта я? Пытанні: чаму я хварэю, а не іншыя? хто прыдумаў гэтыя вірусы? навошта хваробы? навошта добрае надвор'е, калі я ляжу ў ложку?

Малітва — гэта размова з Панам Богам. І гэта не толькі завучаныя словы, якія ты часам (здараецца і такое) вымаўляеш наспех, бо трэба кудысьці тэрмінова бегчы. Гэта не толькі наш абавязак, але і любоў, давер да Пана Бога. Калі толькі мы, вядома, умеем любіць і давяраць.

Трэцякласнік Максімка скардзіўся сястры законніцы, якая праводзіць у ягонай групе катэхетычныя заняткі па рэлігіі:

— Я прашу, прашу ў Бога скутар, а яго ўсё няма ды няма...

— Але ж у цябе ёсць добры веласіпед!

— Ну і што? А я хачу яшчэ скута-а-ар...

І... слёзы. Хочацца хлопцу новую тэхніку — і ўсё тут! А што яшчэ можа й ранавата, то пра гэта не хочацца думаць. Праблема. Яе таксама трэба давяраць Пану Богу.

Ці заўсёды ты просіш у Яго тое, што для цябе найлепшае ў гэты час? Ці ўмееш згаджацца і чакаць? А дзякаваць Пану Богу навучыўся? А маліцца за іншых? Як у цябе з усім гэтым? Якая малітва табе найбольш падабаецца?

Напішы нам, раскажы... Можа, камусьці будзе карысна гэта ведаць. Лепшыя тэксты мы абавязкова надрукуем.

Невыпадкова Папа Рымскі Францішак абвясціў Год малітвы. Варта нам звярнуць на гэта ўвагу.

*А.Барткевіч*



*«Маленькі рыцар Беззаганнай». № 1 (63)/2014 г.*
*Часопіс для дзяцей. Выдаецца на ахвяраванні вернікаў.*
*Заснавальнік: Мінска-Магілёўская архідыяцэзія Рыма-каталіцкага Касцёла ў РБ.*
*220030, г. Мінск, вул. Рэвалюцыйная, 1а.*
*Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржаўным рэестры сродкаў масавай інфармацыі за №904.*
*Касцёльны кансультант — кс. Дзмітрый Пухальскі, рэдактар — Ірына Францаўна Жарнасек,*
*мастак — Галіна Хінка-Янушкевіч, камп'ютарная вёрстка — Алег Глекаў.*
***Адрас для лістоў:** а/с 101, 220002 г. Мінск-2; **e-mail:** m.rycar@yandex.by*
Фармат 70Х90 1/16. Ум. друк. арк. 1,05. Наклад 3 500 экз. Заказ № 2404.
Падпісана да друку 27.03.2014 г. Надрукавана ў УПП «Віцебская абласная друкарня»
ЛП 02330/0494165 ад 03.04.2009 г., вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4. 210015, г. Віцебск.

# Сябар Хрыста




Яму сказалі: «Ты застанешся жыць, калі крыкнеш: «Няхай памрэ Хрыстус!». А ён крыкнуў зусім іншыя словы: «Няхай жыве Хрыстус Валадар!». І... загінуў. Яго імя — благаслаўлёны Хасэ Санхэс дэль Рыа.

Гэта было ў Мексіцы амаль сто гадоў таму, калі там моцна пераследаваўся Каталіцкі Касцёл. Будынкі святыняў улады разбуралі, а калі й былі яшчэ неразбураныя, то ў іх усё роўна не дазвалялася справаваць святую Імшу. За крыжык альбо медалік на шыі можна было патрапіць у вязніцу. І вернікі не вытрымалі — узнялі паўстанне. Сярод паўстанцаў быў і Хасэ Санхэс дэль Рыа. Яму тады было 14 гадоў.

Гэта быў звычайны хлапец. Ён, як і ягоныя сябры, таксама меў рагатку і часам нават страляў з яе па галубах. Але, калі прыйшлі сур'ёзныя выпрабаванні, хлапец зрабіў свой выбар на карысць Хрыста. Мог застацца жыць, калі б адрокся ад Хрыста. Не пажадаў. І таму цешыцца цяпер прабываннем у Нябесным Валадарстве. Гэта абвясціў Папа Рымскі Бэнэдыкт XVI 20 лістапада 2005 года.



Пра тыя страшныя і адначасна высакародныя падзеі зняты фільм «Хрысціяда». Калі будзе магчымасць, раю паглядзець яго. Сярод ягоных герояў ёсць і Хасэ, смелы хлопец, які вучыць усіх нас, як трэба любіць Хрыста і заўсёды заставацца Яму верным.

*Маленькі рыцар Беззаганнай*




*Жан-Леон Жэром. «Майсей на гары Сінай» (1895-1900).*

# Запаведзі

## Пан Бог даў іх выбранаму народу на гары Сінай

Пасля трох месяцаў блукання па пустыні Майсей прывёў людзей да гэтай гары. Тут Пан Бог гаварыў з народам. Напачатку Ён нагадаў, што Бог ужо ўчыніў для народа, — вывеў яго з Егіпта. Але да Зямлі Абяцанай яшчэ быў доўгі шлях, поўны нечаканасцяў, выпрабаванняў, цярпенняў. Бог пажадаў дапамагчы народу і пажадаў даць для яго правілы, па якіх яму трэба жыць. Штосьці накшталт правілаў дарожнага руху. Выконвае іх чалавек дакладна — і небяспека на дарозе яму не страшная. Але Бог чакаў згоды людзей, таму што Ён ніколі ні да чаго нас не прымушае. Ён прапануе, а чалавек павінен сам выбраць.

Народ адказаў згодаю.

І тады скаланулася гара Сінай, пачала дыміцца, грымнулі грымоты, неба разрэзалі маланкі. Гэта Пан Бог сышоў на гару, каб сустрэцца са сваім народам. Ён гаварыў з Майсеем і даў яму Дэкалог — дзесяць запаведзяў...

Мы, хрысціяне, павінны ведаць гэтыя запаведзі, навучыцца жыць па іх, каб не заблукаць на жыццёвай дарозе. Таму ў гэтым нумары нашага часопіса ідзе гаворка пра першую запаведзь. Уважліва прачытаем развагі святара і нашых аднагодкаў, паразважаем разам з імі, а потым працягнем размову ў наступных нумарах...

*Маленькі рыцар Беззаганнай*

I

Не май іншых багоў, апроч Мяне

II

Не ўжывай імя Пана Бога твайго дарэмна

III

Памятай дзень святы святкаваць



# Урокі айца Віталія

На школьным падворку сустрэліся два сябры: Уладзік і Андрэй. Уладзік быў вясёлы як ніколі, ён бег да дзвярэй школы. Андрэй паклікаў яго:

— Гэй, Уладзік! Што ты ляціш, як самалёт! Можа забыўся: сёння ж не фізкультура першая, а матэматыка. Куды спяшаешся?

— А-а, Андрэй, здароў! Пайшлі, нешта пакажу. Мне тата ўчора прывёз новы планшэт, а ў ім інтэрнэт!

— І гульні ёсць?

— Канешне ёсць. Я ўчора да начы скачваў. Пайшлі!

На кожным перапынку хлопцы не адрываліся ад новага Уладзікава планшэта, а калі трэба было ісці дадому, Уладзік прапанаваў:

— А пайшлі да мяне! Дагуляем на кампутары!

— Сёння ж а 18-й гадзіне Імша ў касцёле, пасля — заняткі з сястрой Таццянай, — не надта ўпэўнена адказаў Андрэй, але Уладзік і тут знайшоў рашэнне праблемы:

— Мы трохі пагуляем і пойдзем разам у касцёл.

Так і зрабілі. Ды вось толькі хлопцы хутка забыліся пра сваю пастанову. У перапынку паміж гульнямі, калі загружаўся наступны ўзровень, Андрэй зірнуў на гадзіннік і жахнуўся — да пачатку Імшы заставалася пяць хвілінаў, а да касцёла трэба ісці ўсе дваццаць. Ды Уладзік зноў не разгубіўся:

— На Імшу мы ўжо спазніліся. Давай пойдзем адразу на заняткі.

Аднак і на заняткі хлопцы спазніліся, бо адарваліся ад кампутара толькі тады, калі ўжо зусім сцямнела.

...Такая вось гісторыя. На месцы гэтых хлопцаў можа апынуцца кожны. Кампутары, планшэты — усяго так шмат... І, на жаль, часта усё гэта займае месца Бога...

*Айцец Віталій Даніловіч, марыянін.*

IV

Шануй бацьку свайго і маці сваю

V

Не забівай



## *Што гэта азначае — «не мець іншых багоў»? Якія яны, тыя багі?*

*Я думаю, што «не мець іншых багоў» азначае не хадзіць да варажбітоў, не чытаць соннікаў. Любіць аднаго Бога — значыць маліцца, чытаць Біблію. *Францішак Бойка*





*«Не мець іншых багоў» — гэта значыць, што Бог ёсць адзін і няма ніякіх іншых. Нават калі ёсць добры сябар, то Бог усё роўна галоўны. Няма бога вады, сонца і г.д. *Дзіяна Масель*

*Я думаю, што «не мець іншых багоў» азначае любіць Бога больш за ўсё на свеце. *Дзіма Адамовіч*





*Трэба, каб людзі верылі аднаму Богу і пакланяліся толькі Яму. *Міхаіл Пятрыца*

*Я хачу служыць толькі Езусу Хрысту. У маім паняцці «іншыя багі» — гэта ідалы, якім пакланяцца — адна пустата. *Любоў Фікава*





*Верніку трэба любіць аднаго Бога, бо Ён вырашае, куды пойдзе душа чалавека. *Мікіта Андрэеў*

*Не трэба пакланяцца ніякім іншым багам, апрача Езуса Хрыста. *Маша Свірская.*



*Так думаюць пра першую запаведзь нашы чытачы з Жодзіна і Барысава.*

*Падрыхтавала сястра эўхарыстка Рэгіна Апанчонак.*

*Сябры! Наступная запаведзь...*
*А вы прыгадайце другую запаведзь і дашліце нам свае выказванні пра яе. І тады, магчыма, вы таксама станеце аўтарам гэтай старонкі ў наступным нумары!*
*Толькі разам дасылайце і свой здымак.*
*Можна на* **e-mail***: м.rycar@yandex.by*

X
Не пажадай нічога, што належыць бліжняму твайму

IX
Не пажадай жонкі бліжняга твайго

VIII
Не сведчы фальшыва супраць бліжняга твайго

VI
Не чужалож

VII
Не крадзі

## Старонка ваўчанятаў



# Святы Францішак і воўк



Сябры! Чарговы раз вас вітаюць ваўчаня Спрыт і ваўчаня Адважны. Сёння мы хочам расказаць пра апекуна скаўцкіх ваўчанятаў. Гэта святы Францішак з Асізі, які з'яўляецца для нас прыкладам радасці, любові да ўсяго жывога і адвагі. Пра гэта сведчыць вось хоць бы і гэтая гісторыя...

— Так-так, сябры, я, ваўчаня Спрыт, вельмі люблю гэтую гісторыю, асабліва калі яе распавядае мой сябар, ваўчаня Адважны. Кажы хутчэй, мой сябар Адважны!

— Дык слухайце. Калі святы Францішак жыў у горадзе Агубіа, у ягоных ваколіцах блукаў велізарны і люты воўк. Ён часта нападаў не толькі на іншых жывёлаў, але і на людзей. Усе баяліся звера, ніхто не адважваўся выходзіць за гарадскія сцены. Дарэчы, Спрыт, калі табе цікава, як выглядаў гэты воўк, то замалюй усе фігуры з кропкай унутры на гэтым малюнку.

— Згода. Нашы чытачы таксама далучацца. А ты працягвай...





— І ўявіце сабе: святы Францішак вырашыў... сустрэцца з ваўком. Шмат людзей назірала, як ён ішоў на тую сустрэчу.

Воўк напачатку пабег на святога Францішка, шырока раскрыўшы пашчу... Калі паміж імі было ўжо некалькі метраў, воўк спыніўся. Святы ўчыніў знак крыжа і ўсклікнуў: «Падыдзі сюды, брат воўк! Я загадваю табе імем Хрыста нікому больш не шкодзіць!».

І можаце сабе ўявіць: воўк закрыў пашчу, паслухмяна падышоў да святога Францішка і... лёг каля ягоных ног!

— Ой!

— Вось табе і «ой»... Святы пачаў ушчуваць звера: «Брат воўк, ты робіш шмат зла ў гэтай краіне, знішчаеш і губіш тварэнні Божыя без Яго дазволу. Таму я хачу, брат воўк, усталяваць мір паміж табою і жыхарамі горада, каб ты не крыўдзіў іх больш, а яны прабачылі б табе ўсялякую ранейшую крыўду»...

Бачыш, Спрыт, на гэтым малюнку мастак намаляваў сустрэчу святога Францішка і ваўка. Ты можаш зрабіць малюнак рознакаляровым! Вы, дзеці, таксама ўзбройцеся фарбамі — ды за працу!



— Добра, Адважны, а ты расказвай далей.

— Слухаючы святога Францішка, воўк схіліў галаву і рухамі цела ды хваста выказваў згоду з тым, што той казаў яму. А святы Францішак працягваў: «Я табе абяцаю, што людзі гэтай краіны будуць падсілкоўваць цябе кожны дзень, пакуль ты будзеш жыць паблізу. Ты ніколі не будзеш пакутаваць ад голаду, бо я ведаю, што менавіта голад прымушаў цябе рабіць зло. Але ты таксама павінен паабяцаць мне, што ніколі больш не будзеш нападаць ні на жывёлаў, ні на людзей. Абяцаеш?».

Воўк схіліў галаву ў знак згоды. Людзі ахнулі, а святы Францішак працягваў: «Брат воўк, ці можаш ты даць мне гарантыю тваёй шчырасці, каб я паверыў твайму абяцанню?». Ён працягнуў руку да ваўка, і той таксама падняў лапу ды па-сяброўску ўклаў яе ў руку святога Францішка. І яны ўдваіх пайшлі ў горад...

Такая вось, сябры, гэтая гісторыя. А сярэднявечныя гарады былі складаныя, з мноствам вуліцаў і вулачак. Цэлы лабірынт! Вось ён, перад вамі. Дапамажыце, сябры, свято-






# Старонка

# Прыгода

*(Заканчэнне. Пачатак у №4, 2013 г.)*

Гісторыя, якую распавёў святы Францішак, вельмі ўзрушыла чырвоную кузурку, і яна паляцела на дапамогу сялянам. На гэтым шляху ёй сустрэліся Ландыш і Пралеска. Гэтыя зычлівыя кветкі паказалі ёй шлях да сялянскіх палёў.

Чырвоная кузурка нарэшце дабралася да пасеваў, на якіх раскашавалі шкоднікі. А калі яна ўбачыла, як шмат там працы, то ўсклікнула ў роспачы:

— Божа, хто ж мне дапаможа?!

І раптам на небе з'явілася вясёлка — знак Божай дапамогі. А разам з ёй з неба прыляцела цэлая грамада добрых кузурак. Цэлы дзень яны працавалі разам — знішчалі шкоднікаў. Калі ж тых нарэшце не засталося, знясіленая чырвоная кузурка паляцела на ўзгорак, каб трохі адпачыць. Там яна зноў сустрэла святога Францішка. Ён прывітаў чырвоную кузурку і прапанаваў разам адпачыць пад вялікім дубам, які рос непадалёк. Яны прыселі. Святы запаліў лямпу, і на крылцах чырвонай кузуркі ўспыхнулі яркія чорныя кропачкі. Чырвоная кузурка спалохалася:

му Францішку і ваўку хутчэй дайсці да цэнтра горада.

— Добра, мы правядзем іх па гэтым лабірынце.

— Цудоўна! Чутка пра цуд хутка разнеслася па горадзе. Усе жыхары, мужчыны і жанчыны, ад малога да старога выйшлі на рынкавую плошчу.

Святы Францішак сказаў людзям: «Слухайце, браты мае: воўк паабяцаў выконваць умовы міру з усімі вамі і ніколі больш вас не крыўдзіць. Але вы таксама павінны паабяцаць карміць яго».

Людзі ў адзін голас паабяцалі карміць ваўка да канца яго дзён. А воўк зноў падняў лапу і ўклаў яе ў руку святога Францішка.

Пасля гэтага воўк пачаў жыць у Агубіа. Ён свабодна хадзіў ад аднаго дома да другога, нікому не шкодзіў, а людзі прымалі яго ды ахвотна кармілі.



## божых каровак

# божай кароўкі

— Што гэта?!

Святы Францішак ўсміхнуўся і адказаў:

— Гэта сімвал радасці і цярпення Марыі. Ты, чырвоная кузурка, малайчына — зрабіла паводле прыкладу Дзевы Марыі. Ты дапамагла людзям. У знак удзячнасці за гэта яны перадалі табе вось гэтую папяровую кветачку.

Чырвоную кузурку ўсцешыла пахвала, і яна радасна замахала крылцамі. А святы Францішак запытаўся:

— Ці ведаеш, як цябе людзі празвалі?

— Як?

— Цяпер цябе будуць называць кузуркай Дзевы Марыі, альбо божай кузуркай.

Ад радасці чырвоная кузурка ўзляцела высока над зямлёю, а святы Францішак усклікнуў ёй услед:

— Цяпер перад табой адкрыты вялікі свет! Ляці насустрач яму, божая кузурка!

Паблізу гулялі дзеці. Яны таксама закрычалі:

— Божая кузурка! Божая кузурка!

Адна старэнькая бабулька воддаль недачула — ведама, слабыя вушы ўжо мела — і разам з дзецьмі таксама ўсклікнула:

— Што? Божая кароўка? Дзе тая кароўка?

Дзецям спадабалася, і яны весела панеслі далей:

— Божая кароўка! Божая кароўка!

Так з таго часу гэтую кузурку інакш і не называюць, як божай кароўкай. А яна й не супраць! Таму і мы, самыя юныя дзяўчаткі скаўткі, таксама рады насіць гэтае імя!

*Хто хоча быць большым сярод вас,*
*няхай будзе вам слугою;*
*і хто хоча сярод вас быць першым,*
*няхай будзе вашым нявольнікам.*

Мц 20, 26-27.

Ірына ЖАРНАСЕК

# Гэта наша свята



— Нават не верыцца, — пракрычаў Гранік з арэляў, на якіх ён мерна паскрыпваў у двары, брату Альберту, — што не трэба ўжо ісці ў капліцу ды цягаць смецце!

— Сёння я нарэшце дайду да чацвёртага ўзроўню, — не адрываючыся ад кампутара, адгукнуўся брат з веранды, дзе ён рэзаўся ў свае стралялкі-даганялкі.

Бабулін голас таксама азваўся з хаты, і хлопцы зразумелі па тоне, што яна не ў гуморы. А яна з'явілася ў дзвярах, уперла рукі ў бокі, і ўвесь яе выгляд казаў, што насоўваюцца хмары. І вось: сказала як адрэзала:

— Заўтра едзем у Мінск!

Гранік застыў з адкрытым ротам, потым ачомаўся:

— Заўтра ж асвячаюць капліцу!

— І што? Без нас не пасвенцяць? — неяк нядобра хмыкнула бабуля і дадала: — У цырк пойдзем. Хто мне галаву дурыў наконт цырку?

Хлопцы маўчалі. Цырк, вядома, — гэта класна, але... што здарылася з бабуляй?! Штодня, вяртаючыся з капліцы, яны разам марылі, якое гэта будзе цудоўнае свята, бо касцёл у іхнім райцэнтры даўно працуе, а капліца на ўскрайку стаяла закінутая, да яе рукі не даходзілі. Сёлета вось нарэшце дайшлі, і калі свята ўжо заўтра... Якая муха яе ўкусіла?





— Стася-я! Ты тут? — голас іхняй суседкі, бабулінай сяброўкі Насты з-за густога вішняку.

Бабуля рушыла туды — яны любілі сустрэцца ды пагаманіць там, у зацішку. Але на гэты раз ціхай размовы не атрымалася — не той быў у бабулі настрой.

— Цябе запрасілі, дык ідзі, а нас ксёндз не запрашаў... Хопіць там і без нас!

Галасы прыціхлі. Хлопцы пераглянуліся. Нішто сабе заявачкі! І чаму сапраўды ксёндз не запра...

— Але ж як? — раптам закрычаў Альберт. — Ён у мяне ўчора пытаўся, ці напрасаваў я штаны. Бабуля-я!.. — хлопец рынуўся ў зараснік вішняку, абдзёр па дарозе шчаку, але гэта, зразумелая рэч, цяпер не галоўнае: — Бабуля, ксёндз пытаўся, ці напрасаваў я ўжо штаны!

— А я што кажу?! Во! — зарадавалася суседка, нібы пачула самую радасную навіну. — А ты папрасаваў?

— Не-а, нам не дазваляюць з токам...

Бабуля махнула на яго хвартухом:

— Ай, ідзі ўжо, бедны гэткі!

Праз колькі хвілінаў яна вярталася ў хату і, мінаючы ўнукаў, якія спадцішка зіркалі на яе, сказала:

*Малюнак Ангеліны Пархімовіч, 13 гадоў.*

— Пайшлі штаны прасаваць!

Увечары Гранік з Альбертам усё ж прычапіліся зноў да бабулі: што з ёю сталася? Тая пасміхалася, бурчэла, а потым села на крэсла ды аб'явіла:

— Бо грэшная ваша бабуля — вось што! Спавядацца заўтра пайду!

Хлопцы паадкрывалі раты.

— А што вы думаеце — толькі вы грашыце? Нас, старых, таксама часам штосьці падкалочвае. Альбо... хтосьці... Забрала вось нейкая крыўда, што ксёндз мне нічога не сказаў наконт свята. Думаю, працавалі мы, працавалі — і на табе! Іншым, чула, казаў, а мне... А Наста, яна мудрэйшая, кажа: «Навошта яму нас запрашаць? Гэта наша капліца! Мы ў ёй гаспадары... Не толькі ён, святар, але і ўсе мы... Далейшых, тых, хто раз ці два прыйшоў папрацаваць, вядома, трэба запрасіць». Ёй, бачыце, і ў галаву нават не прыйшло, а мне...

Уранні яны ўсёй сям'ёй ішлі ў капліцу. Хтосьці з суседзяў гукнуў ім услед:

— Дык не паехалі ў цырк?

— Чаго мы там не бачылі? — буркнула пад нос бабуля, ды Гранік пачуў:

— Ты, бабуля, не аднеквайся, сама абяцала! Кажы цяпер: паедзем?!

— Куды ж я дзенуся, раз сказала...

Хлопцы падскочылі гэтак высока, што калі б настаўнік фізкультуры замераў той скачок, можа б, нават на рэкорд класа выйсці ўдалося.

*Малюнак Аляксандры Хамяковай, 13 гадоў.*





# Упрыгож велікодны стол



Ягнятка з харугвай — прыгожы велікодны сімвал. Яго можна зрабіць самому.

Намалюй гэткага ж альбо іншага. Выраж. Ножкі ў ягнятак доўгія. Гэта для таго, каб яны зручней трымаліся ў зялёным моху альбо ў пафарбаваных у вясёлыя колеры крупах.

Прыгожа атрымалася?

*Аленка-майстрыха*







Браты Дзяніс і Міша Тарасавы з гарадскога пасёлка Балбасава, што на Аршаншчыне, ганарацца тым, што ў іх ёсць такая цудоўная малодшая сястрычка — Каця. І хоць Каця пакуль што нават у школу не ходзіць, але яна — сапраўдны і надзейны сябар. Разам ім ніколі не бывае сумна, бо калі, напрыклад, у кагосьці з'явіцца цікавая ідэя, то яна адразу памнажаецца ў тры разы! Разам яны і працуюць, і адпачываюць, і ў касцёл у Оршу ездзяць. Разам таксама перажываюць шмат цікавых гісторый ды прыгодаў у часе адпачынку.

# І мы ў гэтым свеце

У нашага пастаяннага чытача і аўтара Аляксея Томкавіча з Вілейкі ёсць цудоўны сябар — кот Баюн. Не ведаем, чым ён заслужыў сабе такое цікавае імя. Магчыма, тым, што любіць баяць байкі на сон сваім сябрам. Праўда, на гэтым здымку не бачна, каб ён закалыхаў Аляксея.





Прыпавесці

# Ці трэба?

У доме аднаго багацея перасталі маліцца перад ежаю. Ды прыйшоў у гэты дом святар па калядзе. Гаспадыня сабрала на стол — прынесла самыя смачныя стравы. Сям'я села за стол. Усе глядзелі на святара і думалі, што ён зараз памоліцца перад ежаю.

Але святар сказаў:

— Маліцца за сталом павінен бацька.

Запала няёмкая ціша, бо ў гэтай сям'і ўжо даўно ніхто не маліўся.

Бацька закашляўся і нарэшце сказаў:

— Ведаеце, мы ўжо не молімся перад ежаю, бо ў гэтай малітве заўжды паўтараецца адно і тое ж. А малітва па звычцы — гэта пустая балбатня і дарэмная трата часу. Тое, што мы з дня ў дзень, з году ў год кажам адно і тое ж, ніякай карысці не мае.

Святар здзіўлена паглядзеў на гаспадара, а сямігадовая дзяўчынка запытала ў свайго таты:

— Тата, дык значыць мне можна больш не прыходзіць да цябе кожную раніцу і не вітацца з табой?

*З кнігі 100 хрысціянскіх прыпавесцяў «Аднойчы...». — Масква: «Трыяда», 2012.*

*Малюнак Ангеліны Сержан, 13 гадоў.*



# САМАЯ ВАЖНАЯ СУСТРЭЧА



## *Літургія слова*

**Слова Хрыста
няхай жыве ў вас
ва ўсёй паўнаце.**
Клс 3,16

Пасля святога Евангелля
святар гаворыць казанне,
у якім дапамагае нам
зразумець пачутае
ў Божым слове,
а таксама навучае нас,
як трэба жыць,
каб не абражаць Бога.



Мы ўважліва слухаем, запамінаем сказанае, каб і самім выкарыстаць і, магчыма, потым падзяліцца пачутым з кімсьці, хто не змог у гэты дзень быць у касцёле.



Пасля казання падымаемся і ўголас усе разам вызнаём нашу веру. У гэтай малітве мы гаворым пра галоўны змест нашай веры. Таму вельмі важна заўсёды памятаць тое, пра што кажам у гэты час.





У малітве верных мы просім нашага Нябеснага Айца за наш Касцёл, звяртаемся да Яго з самымі рознымі просьбамі. Пасля кожнай з іх з даверам паўтараем: «Выслухай нас, Пане!».



# ЗАГАДКІ З БІБЛІІ

Сябры! У гэтым нумары нашага часопіса мы шмат гаворым пра Божыя запаведзі. Таму і пытанні нашы будуць тычыцца таксама іх.

- ***Бог даў табліцу з запаведзямі:***

а) Абрагаму

б) Ісааку

в) Майсею

г) Мацвею

- ***Гэтая падзея адбылася:***

а) на рацэ Ярдан

б) у Ерузалеме

в) на гары Сіён

г) на гары Сінай

- ***Бог з'явіўся:***

а) у полымі агню і грымотах

б) у палацы

в) на калясніцы

г) на троне

- ***Спіс запаведзяў яшчэ называюць:***

а) Добрай Навіной

б) казаннем

в) нябеснай маннай

г) Дэкалогам




- ***Народ чакаў вяртання Майсея пасля размовы з Богам і:***

а) спяваў песні

б) здрадзіў Богу

в) маліўся

г) збудаваў алтар Пану Богу

- ***Хрысціянін павінен жыць паводле:***

а) першай запаведзі, бо яна самая важная

б) чацвёртай, бо яна наказвае любіць бацькоў

в) усіх дзесяці запаведзяў

г) кодэксу гонару




Адказы на **«Загадкі з Евангелля», змешчаныя ў № 4 за 2013 г.**

Добрая вестка; дваццаць сем; Ян Хрысціцель; Лука; анёл; анёлы.

Узнагароды за правільныя адказы атрымаюць: **Мацвей Навойчык** з Наваполацка, **Юліян Гарбачоў** і **Мікіта Гудойць** з Астраўца. Дарэчы, вашых лістоў з адказамі было нашмат больш. Але, на жаль, многія зрабілі памылкі. Жадаем надалей быць больш уважлівымі. 🙂



## РАДАСНЫ СПЕЎ

Калі выбераш правільны шлях для гэтага куранятка, то прачытаеш словы, якія яму вельмі хочацца праспяваць сваёй маці.





## ПЕРШАЯ СУСТРЭЧА

Злучы кропкі ад 1 да 50 — і ўбачыш падзею, пра якую напісана ў Бібліі, у Кнізе Зыходу, раздзел 3. Напішы, што ты ведаеш пра гэту сустрэчу?

# Прыгоды ксяндза Лявона

## Нібы тэлефон

Машыну завалтузіла, давялося спыніцца. Сусед справа, малады хлапец, напружана зірнуў на кіроўцу, а ксёндз Лявон вылез з машыны, піхнуў нагой пярэдняе левае кола: вось заўсёды так – у самую неспрыяльную хвіліну!..

– Запаска ёсць?

– Запаска то ёсць, – уздыхнуў ксёндз Лявон, – дамкрата няма... – Яму зусім не хацелася прызнавацца гэтаму хлапцу, якому карцела як найхутчэй завезці ксяндза да хворага дзядулі, што ўчора пазычыў ксёндз Лявон дамкрат суседу і той вярнуў, але ён, вернуты, застаўся ляжаць сабе ў гаражы. Як не пакладзеш рэч адразу на сваё месца...

Ішоў дождж. Спадзявацца на спадарожную машыну ў гэтай глухмені?..



– Цябе як завуць? – запытаў ксёндз Лявон у хлопца.

– Павел.

– Ну што, Павел, будзем маліцца, каб паслаў нам Пан Бог...

– Маліцеся, а я буду тэлефанаваць... Можа каго знайду... – схапіў Павел мабільнік.

Ксёндз Лявон дастаў ружанец і пайшоў з ім па дарозе. Таямніцы радасныя... Ды ўжо ж... Радасці тут...

Напрыканцы другой таямніцы да яго даляцеў Паўлаў крык:

– Ксё–ё–ёндз! Машы–ы–на–а–а...

Ззаду набліжаўся вялізны белазаўскі самазвал... Нібы з–пад зямлі вырас ён на гэтай лясной дарозе. Шафёр папрасіў яму не перашкаджаць і замяніў кола за некалькі хвілінаў. На развітанне прапанаваў:

– Падараваць дамкрат?

– Дзякуй, – засмяяўся ксёндз Лявон. – Ёсць дома.

...Калі, паспавядаўшы хворага дзядулю, ксёндз Лявон выйшаў на двор, Павел запытаў вельмі важнае для яго на тую хвіліну:

– Ксёндз... Гэта ружанец нам дапамог?

– І ружанец, і добры чалавек, – адказаў ксёндз Лявон.

– А я думаў, у дарозе найважней на такія выпадкі мець тэлефон...

– Дык а ружанец – гэта ж таксама... нібы тэлефон...

І яны, радасныя такому адкрыццю, абняліся.

Прыгоду запісала І. Ж.



# Галерэйка



"Вялікдзень".
Вераніка ШЛЫКОВІЧ, г.п. Астравец.



"Анёл".
Уладзік ЖУК, г. Браслаў.



"Звеставанне".
Лера ВАБУЛІНСКАЯ, г. Орша.



"Пакліканне".
Віця і Віталік ЖДАНОВІЧЫ,
г. Браслаў.



"Мая сям'я".
Яна СІКОРСКАЯ, г.п. Астравец.



"Новы дзень".
Андрэй БАЗЮК, г.п. Астравец.



У афармленні матэрыялаў нумара прымалі ўдзел юныя мастакі з ДУА «Гімназія-каледж мастацтваў імя І. В. Ахрэмчыка» (майстэрня Г. Хінкі-Янушкевіч).